# ІГОЛКАТЭРАПІЯ

І гэта яму ўдалося: у аптэках горада выявілі больш за 40 фальшывых рэцэптаў.

Махляра затрымалі. Пакаранне на гэты раз будзе сапраўдным, непадробным.

## «Холадна—горача»

***Мінскі раён.*** Мабыць, усе ў дзяцінстве гулялі ў хованкі. Як весела было прытаіцца ў якім-небудзь зацішным месцы і марыць пра тое, каб цябе шукалі як мага даўжэй! А яшчэ можна было схаваць цацку і гуляць з сябрам у «холадна-горача».

Відаць, у такую гульню вырашылі пагуляць і кіраўнікі ААТ «Агрофирма «Рассвет». Толькі, на жаль, пастаянна забывалі, куды і што схавалі. Так, напрыклад, спецыяльнае «бульбяное» абсталяванне коштам 2,5 мільярда рублёў (закупленае летась за бюджэтныя сродкі) прастаяла на вуліцы, замецена снегам.

Як, дарэчы, і 150 тон цэменту, таксама набытага за бюджэтныя сродкі для рэканструкцыі малочнатаварнай фермы ў вёсцы Каралішчавічы. Яго «шукалі» два тыдні. А калі пачаў раставаць снег, цэмент «знайшоўся». Праўда, дзе-нідзе ён паспеў скамянець.

Зараз вядзецца следства. І наўрад ці «любіцелям» дзіцячых гульняў ад гэтага ні горача ні холадна.

## Рэцэпты ад камп'ютара

***Светлагорск.*** Ці здаралася вам падрабляць подпіс бацькоў у дзённіку, каб тыя не заўважылі дрэннай адзнакі? Не? А вось 25-гадоваму мясцоваму жыхару, здаецца, даводзілася. Махляваць ён не кінуў і пазней: хлопец вырашыў падробліваць з дапамогай камп'ютарнай тэхнікі медыцынскія рэцэпты на моцнадзейныя медпрэпараты.

## Спі спакойна, Вільнюс!

***Гродзенская вобласць.*** Смаргонскія міліцыянеры затрымалі вялікую партыю... снарадаў. Толькі не выбуховых, а алкагольных. Больш за пятнаццаць тысяч бутэлек пладовага і вінаграднага віна коштам 614 мільёнаў рублёў незаконна перавозіліся па тэрыторыі Беларусі транзітам з Ерэвана ў Вільнюс.

Цяпер перавозчыкам алкагольных «снарадаў» пагражае штраф у памеры ад чатырох да пяці тысяч базавых велічынь з канфіскацыяй тавару. Таму Вільнюс можа спаць спакойна.

## То соладка, то горка...

***Мазыр.*** Супрацоўнікі адной мясцовай фірмы вельмі любілі піць чай. А што за чаяванне без салодкіх прысмакаў? Асабліва спадабаліся ласункі з расійскага горада Бранска. А каб фірмачоў не палічылі за скнараў, тыя прадавалі частку ласункаў дробнымі аптовымі партыямі суайчыннікам. Толькі вось пра пэўныя падаткі забываліся... Увогуле ж на працягу апошніх трох гадоў фірмачы ўвезлі ў Беларусь кандытарскіх вырабаў на суму больш як адзін мільярд рублёў.

Правяраючыя ад чаю адмовіліся і знайшлі ў офісе фірмы «двайную» бухгалтэрыю. Камусьці ад салодкага стала горка-горка...

***Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь, УУС Гомельскага аблвыканкама.***



– Наш старшыня эканоміць на тэхніцы, каб абнаўляць свой аўтапарк.

Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Міколы ГІРГІЛЯ.

**Мікалай ГЛЕБ**




# Суботнік

Усё пачалося са звычайнай аб'явы на дзвярах нашага пад'езда, у якой кіраўніцтва камунальнай гаспадаркі горада заклікала ўсіх жыхароў навесці вясной належны парадак у сваіх дварах. Шчыра кажучы, я прачытаў паперку і — забыўся: ці мала чаго клеяць на дзвярах? Успомніў пра аб'яву вечарам, калі ўпоцемках (зноў хтосьці выкруціў лямпачку ў пад'ездзе!) давялося дабірацца да сваёй лесвічнай пляцоўкі, натыкаючыся на кінутыя пад ногі скрынкі, бутэлькі, нейкае смецце... Дарэчы, пашчасціла ўдала ўхіліцца ад расчыненых насцеж, скурочаных дзверцаў паштовых скрынак. Затое амаль каля самых дзвярэй у кватэру наступіў на кінутыя сяк-так граблі (дачны ж сезон пачынаецца!) — і міжволі задумаўся пра нашую бытавую культуру ўвогуле.

«Не, — разважаў я, седзячы на кухні і прыкладваючы да набітага гузака старую медную конаўку, — у бытавым жыцці мы — сапраўдныя дзікуны, недалёка адышлі ад сваіх продкаў. Дастаткова адчыніць праламаныя дзверы пад'езда, зірнуць на скурочаныя паштовыя скрынкі, скрэмзаныя сцены, каб зразумець, што мы — бескультурныя людзі. А што робіцца ў двары! Дзіцячыя пясочніцы, пераўтвораныя ў сабачыя туалеты, паламаныя дрэўцы, пустыя бутэлькі і паперкі на зялёных газонах...»

Таму тут жа, на кухні, я цвёрда вырашыў прыслухацца да закліку камунальных службаў і прыняць самы актыўны ўдзел ў навядзенні парадку ў нашай шматпавярхоўцы і вакол яе.

Назаўтра раніцай, прыхапіўшы з сабой венік, вядро з анучай, накіраваўся ажыццяўляць задуманае. Не паспеў і некалькі скрынак сабраць ды падабраць бутэлькі, як зверху пачуліся крокі. «Ну, — думаю, — падмога ідзе, будуць у мяне паплечнікі ў пачэснай справе навядзення парадку». Аж не: сусед з пятага паверха тупае, авоськай памахвае, у магазін спяшаецца: якраз да адкрыцця прыйдзе, возьме на пахмелку пару пляшак саракаградуснай. Прыпыніўся каля мяне, паглядзеў, а потым здзекліва так і пытаецца:

— Ты гэта што, сам, адзін такі бардак тут учыніў?

Ад нечаканасці ў мяне нават сківіцы перасталі зачывацца, заікацца пачаў:

— С-сця-п-па-н-навіч! Я-як табе табе ў галаву магло ўзбрысці? Я па аб'яве, вунь на дзвярах вісіць. Парадак просяць навесці. Вясна на дварэ... Ты што, не чытаў?

— Во дае! — хмыкнуў сусед. — Табе што, больш за ўсіх трэба? Ёсць спецыяльныя службы, няхай і прыбіраюць за намі! — і пашыбаваў уніз па лесвіцы.

Мой рабочы настрой прыкметна сапсаваўся. Але я цвёрда вырашыў не адступаць і ўзяўся саскрэбваць са сцяны надпіс нейкага прыхільніка групы «Дюна», які да непрыстойнасці перайначыў прыпеў з песні «Наш Борька — бабник». І толькі сцёр апошняе брыдкае слова, як з кватэры паверхам вышэй выйшла маладая жанчына з маленькай дачушкай.

— Мама, мама! Ты казала, што на сценах нельга пісаць, а вунь нейкі дзядзька...

Не паспеў я і рота адкрыць, каб штосьці запярэчыць, як жанчына строга паглядзела на мяне:

— Дзядзька — бяка! Памахай на яго пальчыкам. Ну-ну, дзядзька, нельга так рабіць!

— Гэта нехта іншы напісаў, — пачырванеў я. — А я выціраю, суботнік жа сёння.

Жанчына зноў строга зірнула на мяне і прыклала палец да вуснаў: ведаю, маўляў...

— Цяпер ён так больш не будзе рабіць. Праўда, дзядзька?

— Больш ніколі не буду пісаць на сценах, — паабяцаў я малой і зноў пачырванеў.

Мне здалося, што дзяўчынка паверыла мне. А вось бабулька, якая якраз ішла па лесвіцы (дарэчы, некалі я адмовіў ёй ў напісанні ананімкі на суседку), не:

— Бачыце, ён абяцае, што не будзе больш пісаць на сценах! Пісака! Не каб куды трэба пісаў, а то — на сценах!

Я гатовы быў заплакаць ад крыўды і прыкрасці. А тут яшчэ з кватэры насупраць высунулася заспаная жанчына:

— Што тут за крык?! Могуць людзі хоць у выхадны паспаць, адпачыць спакойна? Калі няма чаго рабіць, ідзіце на рынак, семкамі гандлюйце!

Паколькі такая перспектыва мяне не вабіла і да таго ж мелася багата спраў па ўласнай гаспадарцы, я паслухаўся заспанай кабеты. І, праклінаючы ў думках свой парыў да ўсеагульнай чысціні, пасунуўся ў кватэру.

На гэтым суботнік для мяне скончыўся. Для астатніх жыхароў нашага дома ён так і не пачаўся. Магчыма, у наступным годзе ўсё будзе інакш, га, дзікуны?..

*Ляхавіцкі раён,*
*в. Падлессе.*

**Павел САКОВІЧ**

## ПРА ПЕРСОНЫ

Калі ў асобе дыпламата
Шпіён скрываўся да пары,
Тады персонаю нон грата
Яго аб'явім, спадары.

І трапіць, далібог, за краты
Найгоршая з усіх персон.
Яна — «персона нон граната»,
Ці — абяззброены шпіён.





Малюнак Алега ГУЦОЛА.

**Янусь МАЛЕЦ**

## Янусelькі-карацелькі

*(З запісных кніжак гумарыста)*

Аўтамабіль з павагай паглядзеў на веласіпед: «Бач ты, толькі два колы, а едзе!»

Колькі сабака не мяўкай, але мышы баяцца ката.




Каб дрэнна біць па мячы, не абавязкова быць футбалістам.

Як жонка, я цябе моцна кахаю, але зарплату аддай!

Рыбакам не варта лавіць вялікую рыбу. А раптам не хопіць размаху рук, каб паказаць яе памеры?

Калі мужчына шкадуе грошай на гарэлку, то ў мінулым жыцці ён хутчэй за ўсё быў жанчынай.

Новы венік іншы раз мяце па-старому, а зарплату атрымлівае па-новаму.

Нават калі вас білі па галаве, гэта яшчэ не азначае, што яна ў вас ёсць.

На першае — каша, на другое — каша, на трэцяе — развод.

Шанцуе ж парсюку: увесь час лычом у зямлю і — ніводнага фінгала!

Нецвярозы трактарыст Васюткін цэлы дзень узорваў калгаснае поле і толькі пад вечар успомніў, што забыўся прычапіць да трактара плугі.

Жыхар г. Віцебска В. Вадагрэеў пасварыўся з жонкай і скокнуў з балкона 16-ціпавярховага дома. У выніку набіў тры гузакі: першы паверх усё ж...

Не кожны, хто выпівае на працы — сантэхнік.

Калі вас пакінула трэцяя жонка, не адчайвайцеся. Гэта не так і шмат: прынамсі, вы памятаеце, якой яна была па ліку...

У вас многа грошай? Сорамна: у кагосьці няма, а выпіць хочацца!



І дагэтуль чалавецтва ніяк не можа вырашыць, што было першым: яйка ці курыца. А пачалося ж усё з пеўня!

Мужчына з пачатковай адукацыяй, не забяспечаны жыллём, які пяць разоў сядзеў у турме, шукае сур'ёзную жанчыну з вышэйшай адукацыяй і кватэрай для стварэння моцнай сям'і.

Гультай — гэта той, хто ездзіць на ліфце з першага паверха на другі і абураецца, што ў ім няма сядзенняў.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.

Анатоль ЦЫРКУНОЎ

# Мініяцюры

## «Новы» беларус

– Я нашай сінявокай Беларуссю
Усюды і заўсёды ганаруся.
Гатовы ўсё аддаць і для народа.
Апроч катэджа, саду, агарода,
Скарбонкі, дзе ляжаць рублі і баксы,
Машыны «хонды» і сабакі таксы...

## Пакуль гром не грымне



Не верачы Запаветам,
Ні Новаму, ні Старому,
Бязбожнік вельмі пры гэтым
Баіцца Божага грому.
Пры кожным гучным удары
Адразу мяняецца ў твары:
Бляднее і – што цікава –
Хрысціцца злева направа.

## Фіяска

Каб у бой-фрэнды да багачкі трапіць,
Задумаў наш Васіль яе прывабіць
Спяваннем пад гітару, ды дарма:
Спявае дрэнна, таленту няма.
Не можа бедны дурань зразумець,
Што тут патрэбна іншы талент мець.



Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.



Малюнак Аляксандра БУЛАЯ.









Малюнкі Алега ПАПОВА.

## АНЕКДОТ

Антось ужо паўтара года хацеў расстацца з Марынай, але дзяўчына была чэмпіёнкай Віцебска па каратэ і таму сама вырашала, калі і з кім расставацца.



# Вожыку пішуць...




**Прывітанне, шаноўны браце Вожык!**

Хоць ты не носіш штаноў ды іншай вопраткі таксама, але я дакладна ведаю, што як самы спрактыкаваны эксперт разбярэшся ў любых тонкасцях моды і не толькі.

Каля ўвахода на станцыю метрапалітэна «Акадэмія навук», што побач з кінатэатрам «Кастрычнік», стаіць «дом для манекенаў» — вялікая тумба з празрыстага пластыку. Манекены жывуць там ужо некалькі гадоў — засяляюцца, высяляюцца, пераапранаюцца... Чарговы іх «прыкід» мне спадабаўся. Ну, думаю, трэба прыцаніцца. А дзе? Паглядзеў на рэкламны надпіс унізе і быў горка расчараваны: аказваецца, гэтае адзенне толькі для мужчын з Даніі! А я ж мужчына з Беларусі. Значыцца, не відаць мне гэтых штаноў, як карасю — Ніла!

Засумаваў я, браце, ад такога «жорсткага мэтавага маркетынгу». Ці ў нас землякі Херлуфа Бідструпа касякамі ходзяць, адзенне шукаюць, а знайшоўшы — мятуць, цаны не пытаючы? Ці адзенне гэтае на мужчын з Беларусі, Германіі ці Конга не налазіць, ці, наадварот, спаўзае?

Зразумела, дружа Вожык, усё гэта жарты. Але перад тым, як нешта апублікаваць, выставіць на ўсеагульны агляд, трэба ўсё-ткі ўважліва перачытаць і асэнсаваць напісанае. А то часам бачыш загаловак: «Пацук пакусаў сям'ю мінчан у асабістай кватэры» — і ўзнікае заканамернае пытанне: «А навошта яны ў пацучыную кватэру папёрліся?»...

На тым бывай, дружа!

**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*

**Лёля БАГДАНОВІЧ**

## ЦЁТЧЫНА «АПТЭКА»



Прачытала цётка Лёдзя –
Дзьмухавец сягоння ў модзе:
Лечыць ныркі і вантробы,
Паляпшае апетыт,
Мазалі ўшчэнт выводзіць...
І рашыла ў гэтым годзе
Ім папоўніць дэфіцыт:
Воску, ёду, смол, халіна,
Фосфару, жалеза –
Мае столькі вітамінаў
Дзьмухавец-гарэза!
Толькі дзівяцца суседкі,
У вачах у іх – дакор:
Ў цёткі Лёдзі ў жоўтых кветках
Агарод увесь і двор.
Ды не вытрымаў Валодзя,
Цётчын муж, сказаўшы: «Годзе!»,
Ўзяў нарэшце ён касу
І скасіў «аптэку» ўсю!

*г. Барысаў.*



Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.



Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

## Знарок не прыдумаеш

«Шафёру Махавіку за вяртанне ў гараж у нецвярозым стане аб'явіць вымову, а загадчыку гаража больш прынцыпова адносіцца да выпівак у рэйсах».

*(З рашэння праўлення калгаса.)*

«Загадчык фермы № 2 не апрыходаваў субпрадукты ад забітых жывёлін, у выніку чаго атрымалася недастача 53 кілаграмаў мяса».

*(З дакладной праўлення калгаса.)*

«Прадавец магазіна некаторым наведвальнікам адпускае спіртныя напіткі, якія знаходзяцца ў нецвярозым стане».

*(Са скаргі.)*

«Мы сустрэліся з ёй у скверы нос у нос і не маглі разысціся: яна – управа і я – управа, яна – улева і я – туды ж. Ад такой вось недарэчнасці я настолькі разгубіўся, што не заўважыў, якім чынам яе сумка апынулася ў маіх руках».

*(З міліцэйскага пратакола.)*

«Не выконваем план па малаку па той прычыне, што несвоечасова запускаем кароў і наогул усю работу з малочным статкам».

*(З выступлення на сходзе.)*

**Даслаў Віктар САЛАНЕЦ,**
*г. Любань.*




**Уладзімір ПРАВАСУД**

## Сіла звычкі



Перастрахоўшчык неяк трапіў
У пекла, да чарцей у лапы.
А тыя доўга не марудзяць,
І вось ён – у смале па грудзі
І ўжо адтуль ім задае пытанне:
– Ці ўзгоднена дзе гэтае купанне?

*«Вожык», № 2, 1966 г.*



Начальнік цэха:
– Я вам бітую гадзіну даводжу, што трэба эканоміць кожную мінуту.

*1966 г.*

Малюнак С. РАМАНАВА.

## Гарочыцкая эканомія

На адной з нарад старшыня Калінкавіцкага райспажыўсаюза Міхаіл Міхайлавіч Шарынец запытаў у старшыні Гарочыцкага сельпо т. Бандарчука:

– На чым бы ты сэканоміў?

– Зрэзаў бы сродкі на супрацьпажарную ахову, – адказаў той. – У нас жа, даражэнькія, ніколі не было пажараў.

– А што, Яўген Васільевіч мае рацыю! – падаў нехта голас.

Прапанову падтрымалі. А неўзабаве перасталі набываць не толькі новае супрацьпажарнае абсталяванне, але не звярталі ўжо ўвагі і на старое.

А сам Шарынец пасля той нарады чакаў звестак з сельпо: якую эканомію ад гэтага мерапрыемства атрымалі? І дачакаўся... Аднойчы ўбачыў, як да канторы подбегам, азіраючыся па баках, шыбуе старшыня Гарочыцкага сельпо Бандарчук:

– Бяда, Міхайлавіч, – ледзь пераводзячы дыханне, крычаў Бандарчук. – У Гарочыцах магазін згарэў. Тавараў у тым агеньчыку ажно на цэлых 15 тысяч рублікаў ляснула. Хапіліся былі тушыць. Дык нават дзіравага вядра не знайшлося.

На гэтым, магчыма, можна было б і кропку паставіць. Але ніхто не ведае, аб якой эканоміі пойдзе гаворка на наступнай нарадзе.

**М. БРЭГМАН.**
*«Вожык», № 10, 1977 г.*




У кожнага свой ідал.

Малюнак Я. БУСЛА.




Малюнак А. КАРШАКЕВІЧА. *(1987 г.)*



# Анекдоты
## на Дзень Перамогі




Германія, 1940 год. Генерал вяртаецца дадому з генштаба заклапочаным. Жонка цікавіцца:

– Што здарылася?

– Наш фюрэр вырашыў ваяваць з Савецкім Саюзам.

– Ну і што? Мы ўсю Еўропу заваявалі! Пакажы мне гэты Савецкі Саюз на карце.

Генерал падводзіць жонку да вялікай карты на сцяне. Яна ўважліва разглядае яе, паварочваючы галаву то ўлева, то ўправа, а затым пытаецца ў мужа:

– А фюрэр гэту карту бачыў?..





Ідзе імклівае наступленне Чырвонай Арміі. Немцы – салдат і генерал – ледзь паспяваюць схавацца ў склепе: першы – у кутку, а другі – у пустой бочцы. Неўзабаве ўрываюцца нашы разведчыкі. Адразу знаходзяць салдата і вядуць яго наверх. Салдат праходзіць каля бочкі і штурхае яе нагой:

– Выходзьце, мой генерал, нас выдалі!

* * *

З пісьма фрау Паулюс свайму сыну ў 1943 годзе: «У апошні час мне зусім не падабаюцца тыя людзі, якія цябе акружаюць...»




* * *



1945 год. Урок у нямецкай школе.

– Ганс, праспрагайце дзеяслоў «бегчы».

– Я бягу, мы бяжым, ты бяжыш, вы бяжыце, ён бяжыць...

– А «яны»?

– А яны наступаюць, пан настаўнік!

# ПЕРШАКРАСАВІЦКІ МІКС

1 красавіка ў Міністэрстве інфармацыі адкрылася выстава карыкатур, гумарыстычных малюнкаў вядомых мастакоў-карыкатурыстаў часопіса «Вожык» і гумарыстычных здымкаў фотакарэспандэнта газеты «Звязда» Анатоля Клешчука. Выстава, якая ўжо стала традыцыйнай (праходзіла ў трэці раз), сёлета была адметнай менавіта мастацкім «міксам»: карыкатуры на сацыяльныя, міжнародныя, вытворчыя, бытавыя, маральныя і іншыя тэмы, выкананыя мастакамі ў адметных стылях, удала спалучыліся з фотаздымкамі, якія адлюстравалі паводзіны людзей, іх эмоцыі ў розных жыццёвых сітуацыях... Цікавыя сюжэты работ, запамінальныя вобразы, нечаканыя павароты падзей выклікалі шчыры смех у наведвальнікаў гэтай незвычайнай экспазіцыі.



*Злева направа: Мікола Шабовіч, Аляксандр Каршакевіч, Уладзімір Ермалаеў, Алег Карповіч.*

Выставу пад назваю «Першакрасавіцкі мікс» адкрыў намеснік міністра інфармацыі Уладзімір Матусевіч. Свае слова пра «Вожык» і «Звязду», пра карыкатуру і фотаздымак, пра беларускую карыкатурыстыку і школу вожыкаўскага гумарыстычнага і сатырычнага малюнка сказалі намеснік дырэктара-галоўны рэдактар часопіса «Нёман» РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» Алесь Бадак, галоўны рэдактар часопіса «Вожык» Юлія Зарэцкая, мастак, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Сяргей Волкаў... С. Волкаў, у прыватнасці, узгадаў вядомую ісціну: карыкатурыстам трэба нарадзіцца. Можна быць бліскучым графікам і жывапісцам, але так



*На здымку: Анатоль Кляшчук.*



*На здымку: Юлія Зарэцкая і Уладзімір Ермалаеў.*

і не здолець намаляваць хоць адну карыкатуру. І як не ганарыцца «Вожыку», што сярод яго актыўных аўтараў ёсць такія бліскучыя майстры сатырычнага алоўка, як Мікола Гіргель, Аляксандр Каршакевіч, Алег Папоў, Аркадзь Гурскі, Алег Гуцол, Пётр Козіч, Алег Карповіч!.. Таму «Вожык» з поўным правам быў і застаецца сапраўднай энцыклапедыяй беларускай сатырычнай графікі.

Убачыць смешнае, камічнае ў паўсядзённым жыцці можа і фотамастак. Яскравы прыклад таму – Анатоль Кляшчук, аўтар больш чым 30-ці персанальных і ўдзельнік шматлікіх калектыўных фотавыстаў у Беларусі і за яе межамі, лаўрэат Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі-2009» у намінацыі «Лепшы фотамастак». Яго здымкі з асобнай «гумарыстычнай папкі», якія збіраліся гадамі, як кажуць, на ўсялякі выпадак (некаторыя друкаваліся на старонках газеты «Звязда»), дачакалі свайго часу і арганічна ўпісаліся ў атмасферу першакрасавіцкай выставы.

Таму калі вас раптам не закруціў «Першакрасавіцкі мікс», спяшайцеся ў памяшканне Міністэрства інфармацыі па вясёлы смех і добры настрой!











Фельетон

*У рэдакцыю «Вожыка» трапілі запіскі нікому невядомага, таямнічага гісторыка Алега Прыдарожкіна. Асаблівасцю яго твора з'яўляецца тое, што ён расказвае пра ваенны канфлікт, які не згадваецца ні ў кнігах, ні ў даследаваннях, ні ў дысертацыях і нават у нечых успамінах. Для таго, каб вы, нашы паважаныя чытачы, зразумелі, пра што там ідзе размова, друкуем некалькі ўрыўкаў з гэтай сенсацыйнай гістарычнай працы.*

* * *

**(З уводзін)**

...На працягу ўжо больш як двух стагоддзяў на дарогах нашай планеты вядзецца жорсткая і бязлітасная вайна. Гэта супрацьстаянне чатырохколавых і двухногіх. Да першай групы адносяцца вадзіцелі ўсемагчымага аўтатранспарту, да другой — звычайныя пешаходы.

У кожны гістарычны адрэзак часу гэта вайна вялася з рознай актыўнасцю. Калі ў самым пачатку канфлікту абыходзілася практычна без ахвяр, то зараз справы сумныя. З кожным днём колькасць пацярпелых расце. Напрыклад, толькі за тры месяцы 2013 года ўжо адбылося больш за 360 «ваенных сутычак» (у народзе іх называюць ДТЗ) чатырохколавых і двухногіх.

Для спынення гэтай вайны на дарогах часта можна сустрэць супрацоўнікаў ДАІ, якія сочаць за тым, каб супрацьстаянне не закранула мірных жыхароў, ды і ўвогуле імкнуцца ўсімі магчымымі сродкамі спыніць гэтае бязглуздае і нікому не патрэбнае саперніцтва...

* * *

**(З раздзела «Адметныя рысы вядзення вайны»)**

...Адной з асаблівасцей супрацьстаяння з'яўляецца тое, што абодва бакі вельмі часта могуць ужываць допінг. Невядома, адкуль пайшло павер'е, але і чатырохколавыя, і двухногія лічаць, што ў гэтай двухсотгадовай барацьбе ім дапаможа перамагчы гарэлка, віно, настойка і іншыя алкагольныя напоі. Таму і п'юць іх у такіх аб'ёмах, што дзіву даешся.

Напрыклад, кожны дзень супрацоўнікі ДАІ затрымліваюць у сярэднім каля ста нецвярозых вадзіцеляў. Дарэчы, за ўвесь 2012 год было затрымана 43 тысячы такіх правапарушальнікаў. А сёлета за тры месяцы іх ужо налічваецца восем тысяч.

*(Для таго, каб вы зразумелі маштаб гэтых лічбаў, уявіце, што зараз насельніцтва Ваўкавыска складае каля 47 тысяч жыхароў — заўвага часопіса).*

Не адстаюць ад вадзіцеляў і пешаходы. Таксама добра выпіўшы, яны імкнуцца праверыць на трываласць капоты машын. Часта двухногія могуць цягнуцца пасярэдзіне дарогі ці ляжаць упоперак яе. (Не выключана, што ў гэты момант яны ўяўляюць сябе «ляжачымі паліцэйскімі» ці бетоннай сцяной, ці ўвогуле ўжо нічога не могуць уяўляць). У мэтах канспірацыі яны не носяць святлоадбівальныя элементы.

Але двухногія і з цвярозым розумам часта спаборнічаюць з чатырохколавымі ў хуткасці і рэакцыі. Такіх «бегуноў» кожны дзень імкнуцца «адлоўліваць» супрацоўнікі ДАІ...

*(Для прыкладу, са зводкі ДАІ за 15 красавіка гэтага года: «За парушэнне правіл дарожнага руху да адказнасці прыцягнуты 2224 пешаходы, з іх 775 — за адсутнасць святлоадбівальных элементаў у цёмны час сутак» — заўвага часопіса.)*

* * *

**(З раздзела «Колькі каштуе ваяваць у нашы дні?»)**

...У апошні час за тое, каб «паваяваць», даводзіцца плаціць. Прычым, вялікія грошы. Так, за язду ў п'яным выглядзе прыйдзецца вытрасці з кішэняў ад 1,5 да 3,5 мільёна рублёў і забыцца на тры гады пра свае вадзіцельскія правы. Калі ж затрымаюць яшчэ раз на працягу года ў такім жа стане, то пагражае крымінальная адказнасць (ці два гады папраўчых работ, ці арышт на 6 месяцаў, у асобных выпадках правапарушальнік страчвае свабоду на тэрмін да двух гадоў). Акрамя гэтага, штраф будзе складаць ужо 1000 базавых велічынь. Магчыма нават канфіскацыя машыны.

Што датычыцца пешаходаў, то ім за «баявыя дзеянні» таксама давядзецца плаціць. За «звычайнае» парушэнне правіл дарожнага руху — 100–300 тысяч рублёў, за «нецвярозае» — 500 тысяч рублёў, а калі іх паводзіны выклікалі аварыйную сітуацыю — 800 тысяч рублёў...

* * *

*Дзіўна неяк пра ўсё гэта чытаць. Здаецца, жывём у высокаразвітым грамадстве, а правільна дарогу перайсці ці праехаць скрыжаванне не можам. Усё некуды ляцім, не звяртаючы ўвагі на тое, што адбываецца вакол.*

*Кажуць, у прыродзе славянскіх народаў закладзена спадзяванне на праславутае «авось», але прыведзеная вышэй статыстыка яскрава сведчыць, што працуе яно не вельмі добра.*

*Уявіце, як было б цудоўна, калі б чатырохколавыя і двухногія пачалі паважаць адзін аднаго, думаць пра тое, што кожнага нехта чакае дома, прытрымлівацца правіл дарожнага руху, якія парушыць — сабе даражэй, і нікуды ніколі не спяшацца.*

*Зразумела, атрымліваецца нейкая дарожная ўтопія, але чаму б яе не ператварыць у рэальнае жыццё? Як вам такая ідэя?*

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**






Малюнак Алега ПАПОВА.



Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.




Малюнак Андрэя СЛУЦКАГА.




Малюнак Паўла ГАРАДЦОВА.

## Думкі ўголас

• Той, хто разлічвае на сябе, добра лічыць.

• Грошы — гэта тое, чаго ўсюды шмат і чаго так часта не хапае.

• Лепшае лячэнне для цела — гэта супакоіць душу.

• Калі цягнуць ката за хвост, дык радавацца будуць толькі мышы.

• Смак да жыцця добра спалучаецца са смакам чырвонай ікры.

• Паказаць свой твар можна і павярнуўшыся да чалавека плячыма.

• Вельмі важна, хто яшчэ, апроч праўды, на тваім баку.

• І тыя, хто без цара ў галаве, не супраць жыць па-царску.

• Ставяць чалавека на ногі яго ўмелыя рукі.

• Больш за ўсё можна наламаць дроў, калі сячэш з-за пляча.

• Не трэба бегчы спераду паравоза, нават калі спазняешся на цягнік.

• Адзін са спосабаў пазбаўлення ад бяссонніцы — сон на грашах.

• Каб апранацца з іголачкі, некаторыя жанчыны гатовы распранацца да нітачкі.

• Зялёны колер супакойвае. І асабліва на доларах.

• Калі чалавек выйшаў з сябе, дык лепей, каб ён праходзіў міма.

**Даслаў Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*

ІМПАРТ

## Усмешкі розных шырот

Два сябры спыніліся ў маленькай гасцініцы. Раніцай адзін пытаецца ў другога:

– Ну, як табе спалася?

– Надзвычай кепска. У мяне ў пасцелі апынулася дохлая блыха.

– Дык яна не магла цябе патурбаваць.

– Яна не магла, але на яе пахаванне і хаўтуры сабралася з паўсотні сваякоў.



*Малюнак Тосо БАРКОВІЧА (Сербія).*

☺ ☺ ☺

Жабрак працягвае два капелюшы – па адным у кожнай руцэ – і тлумачыць здзіўленаму прахожаму:

– Разумееце, сеньёр, жыццё даражэе, вось і давялося адкрыць філіял.

☺ ☺ ☺

У цягніку едуць двое англічан. Адзін з іх абірае бананы, соліць і выкідвае ў акно.

– Прабачце, сэр, чаму вы гэта робіце?

– Не люблю салёныя бананы.

☺ ☺ ☺

У паліцыю забягае чалавек і кажа:

– Я прыйшоў здацца ўладам.

– А што вы зрабілі?

– Я ўдарыў сваю жонку...

– І забілі яе?

– Што вы! Нават не падрапаў.

– Ну, гэта дробязі. Можаце ісці.

– Ні за што! Яна стаіць за гэтымі дзвярыма.

☺ ☺ ☺

Слуга *(суседу свайго гаспадара)*: – Містэр Джонс перадае прывітанне і просіць паведаміць, што ён застрэліў свайго сабаку, які выў і не даваў вам спаць.

Сусед: – Перадайце маю ўдзячнасць містэру Джонсу і спытайце яго, ці не будзе ён такі ласкавы адправіць куды-небудзь сваю дачку ці хоць бы спаліць яе піяніна.



*Малюнак Фенга ГІБО (Кітай).*

☺ ☺ ☺

– Мсье капітан, дазвольце далажыць: наш камандзір аддзялення зноў п'яны!

– Адкуль ты ведаеш?

– Ён зноў голіць люстэрка.

☺ ☺ ☺

Тэлефонны званок.

– Люсьен дома?

– Не. А што яму перадаць?

– Перадайце яму трыста франкаў, якія я ў яго пазычыў.

☺ ☺ ☺

– Ты ўжо чуў? – пытаецца аўстраліец у свайго сябра. – Наш сусед разбіў сабе галаву!

– Як гэта адбылося?

– Ён купіў новы бумеранг, а стары выкінуў.




*Малюнак Масафумі КІКУЧЫ (Японія).*

☺ ☺ ☺

На рынку пакупнік пытаецца:

– Колькі каштуе гэтая котка?

– Сто франкаў.

– Але ўчора вы прасілі за яе толькі дваццаць.

– Яна з'ела папугая!

☺ ☺ ☺

Дырэктар авіякампаніі выгаворвае камандзіру карабля:

— Я хацеў бы, каб вы лепш выбіралі словы, калі звяртаецеся да пасажыраў самалёта.

— А што здарылася?

— На днях, калі вы заходзілі на пасадку, то сказалі ў мікрафон: «Перад тым, як мы прызямлімся, я хацеў бы скарыстаць выпадак і развітацца з усімі!»



Малюнак Шахрокха ХКЕЙДАРЫ (Іран).

☺ ☺ ☺

Высока ў горах паляўнічы залез на круты схіл са сваім правадніком. Раптам ён паслізнуўся, але ўтрымаўся на нагах.

— Добра, што я не зламаў нагу. Нават не ўяўляю, як бы вы мяне ратавалі. Змаглі б мяне спусціць?

— Думаю, што змог бы. Аднойчы я спусціў адсюль падстрэленага дзіка вагой амаль у цэнтнер. Праўда, у тры прыёмы.

☺ ☺ ☺

Радавому Сміту загадалі наабіраць вядро бульбы.

— У наш касмічны век у арміі належала б мець машыну для абірання бульбы, — прабурчэў Сміт.

— Канечне, і вы ўяўляеце яе апошнюю мадэль, — адказаў сяржант.



Малюнак Льюіса ПОЛА (Аўстралія).

☺ ☺ ☺

— Што ты выразаеш з газеты?

— Нататку пра мужчыну, які запатрабаваў разводу з-за таго, што жонка правярае яго кішэні.

— І што ты з ёй зробіш?

— Пакладу ў кішэнь.

☺ ☺ ☺

Суддзя: — Што вас прымусіла ўдарыць жонку?

Падсудны: — Мяркуйце самі, ваша чэсць: яна стаяла да мяне спінай, пад рукой у мяне была патэльня, а дзверы за мной — адчынены. Ну як было не скарыстацца такім зручным збегам абставін?

☺ ☺ ☺

Адзін студэнт заявіў, што заробіць мільён: навучыць свайго сабаку гаварыць.

— Ну хто табе дасць мільён за сабаку, які ўмее гаварыць?

— Проста так — ніхто, — прызнаўся студэнт. — А вось фабрыканты, якія выпускаюць кансервы для сабак, заплацяць і болей, каб толькі прымусіць яго памоўчваць...

☺ ☺ ☺

Гаспадыня, якая наймае новую пакаёўку, пытаецца:

— Скажыце, мілая, а вы любіце папугаяў?

— Не турбуйцеся, мадам, я ем усё.



Малюнак Паўла КАНСТАНЦІНА (Румынія).

☺ ☺ ☺

У невялікім амерыканскім горадзе хірург мясцовага шпіталя пытаецца ў гаспадара крамы:

— Колькі ў вас прадалі матацыклаў у гэтым месяцы?

— Дваццаць штук.

— Цікава, куды ж дзеліся яшчэ трое?








# НЕ лыкам шытыя...

*Быль*

Адбылася гэта гісторыя ў пяцідзясятыя гады мінулага стагоддзя ў вёсцы Дуброва, што па дарозе з Ваўкавыска ў Гродна.

...Стаяла глыбокая восень. Калгасную бульбу даўно сабралі і схавалі на полі ў капцы. Толькі зрэдку мясцоваму брыгадзіру Івану Стаку трэба было паглядваць, ці цэлыя сховы, ці не панадзіўся ў іх які злодзей.

Аднойчы раніцай мужчына адправіўся на чарговы абход. Прыйшоў на поле, наблізіўся да першага капца і ўбачыў, што зямля вакол яго ўскапаная, салома раскідана і выбрана шмат бульбы.

– Вось чэрці! Хоць бы салому на месца паклалі, так бульба і падмерзнуць можа! – абурыўся Іван.

Падышоў да капы саломы, каб падняць яе, і раптам капа сама паднялася, ускінула на сябе Івана і паімчалася разам з ім да лесу. Спачатку брыгадзір нічога не змог зразумець, але калі салома абтрэслася, з жахам убачыў, што едзе вярхом на вялікім дзіку з белай плямай на галаве і трымаецца за ягоную доўгую поўсць. Жывёліна набірала ўсё большую хуткасць і нечакана павярнула да адзінокай алешыны. Калі яны параўняліся з дрэвам, мужчыну ўдалося зачапіцца за яго нагой і грымнуцца на зямлю...

Калі Іван ачухаўся і абмацаў сябе, то адзінае, што ён мог сказаць, было:

– Дзякуй богу, жывы! Нават не зламаў нічога. А магло быць намнога горш!

І толькі ён гэта прамовіў, як заўважыў, што з боку лесу да яго набліжаецца воблака пылу. Неўзабаве Іван разгледзеў свайго «сябра» з белай плямай у суправаджэнні яшчэ чатырох сабратоў.

– Во халера! Прыхапіў у лесе сабе падмогу, каб зусім мяне даканаць! Давядзецца, мусіць, паміраць, – мужчына перахрысціўся і пачаў развітвацца з жыццём...

Але статак пранёсся міма. Толькі дзік з белай плямай збочыў, падбег да брыгадзіра, злосна фыркнуў на няўдзячнага «пасажыра», затым крутануўся і пабег за астатнімі.

Вось такая гісторыя адбылася ў вёсцы Дуброва. Старажылы любяць яе часам узгадваць і ганарліва зазначаць: маўляў, продкі нашы былі не лыкам шытыя – на дзіках раз'язджалі, а гэта вам не нейкія там коні ці быкі.

А Іван Стак з брыгадзіраў звольніўся: няхай на дзіку іншы хто катаецца, яму і аднаго разу хапіла!..

**Міхаіл МАСКАЛЬЧУК,**
*Гродзенская вобласць,*
*г. п. Вялікая Бераставіца.*

# Мініяцюры

Галава яго расла,
Дзе расці павінна.
Не падобны на асла,
Ды, аднак, скаціна!

* * *

Мазгі свідруе, круціць
Дурнота. Або мудрасць:
Знайшлі мяне ў капусце,
А дзе, цікава, згубяць?..



* * *

Нялёгка мне было тады,
Калі я ў гэты свет прыплёўся.
Раней пакутваў без яды,
Цяпер – хварэю ад абжорства.
Было: без бабы паміраў,
Жаніўся – як у гной ускочыў!
За што Ўсявышні пакараў
Мяне прысутнасцю жаночай?..

**Люцыян ШЧАСНЫ,**
*Пастаўскі раён,*
*в. Хрыстова.*



-Добра Юрасю, зяці прыязджаюць, дапамагаюць...





-Таму ў Юрася з парсюком ніякіх праблем.

Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міколы НАВАРЫЧА.

*Юрася СВІРКУ (1933 – 2004) чытачы ведаюць як удумлівага і пранікнёнага лірыка, аўтара шматлікіх кніг паэзіі. Пісаў Юрый Мікалаевіч і гумар, з жартоўнымі вершамі часта выступаў у часопісе «Вожык», газеце «Літаратура і мастацтва». Сёлета ў маі выдатнаму паэту Юрасю Свірку споўнілася б 80 гадоў.*

*У паэтычнай спадчыне творцы нямала гумарыстычных вершаў, невядомых чытачу. Сёння мы публікуем некаторыя з іх.*




## Юрась СВІРКА

### «Жорсткі»

Не спачувае дружбаку,
Няшчаснаму Захарку:
Учора ж вывіхнуў руку,
Як браў «крутую» чарку.

### Не альтруізм

Ён памяці аддаў даніну –
Накрэмзаў пульхную таміну.
І не ўтамляецца, шкрабе –
Успамінае пра сябе.

### Выцісканне з сябе раба (па Чэхаву)

Пачаў ён выціскаць з сябе раба.
І захапіўся так тым выцісканнем –
Сагнуўся ў крук, даходзіць да гарба,
Было ўжо недалёка да сканання.
Ды тут яму параілі: «Табе
Навошта гібель? Думай пра жывое.
Раба даўно ты выціснуў з сябе,
Пасля яго – пайшло, пайшло не тое...»

### Юбіляр

Вязку лаўровага лісця купіў
І поўную бочку ялею.
І нават сябе лаўрэатам прысніў –
Рыхтуецца да юбілею.

### Філасофія чарвяка

Навошта раскалыхваць вецце,
Рукамі абхапіўшы ствол?
Лепш яблыку падгрызці сэрца,
І сам ён чмякнецца на дол.

Сяброўскі шарж
*Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.*







Малюнкі Андрэя СЛУЦКАГА.

## Мімаходзь

Старасць – гэта калі падчас сняданку думаеш пра абед.

Разумная кніга сама знойдзе свайго чытача.

Лянота – вельмі няпросты занятак. Ім могуць займацца толькі тыя, хто мае вялікі стаж і любоў да гэтай нялёгкай справы.

З'едлівасць – зброя пасродкавасці.

Мяркуючы па выразе: «Мы – тое, што мы ядзім», ён быў клёцкай.

**Заўважыў Яўген МАРТЫНОВІЧ,**
*г. Мінск.*







Малюнак Алега КАРПОВІЧА.



## АНЕКДОТ

Для таго, каб у дзяўчыны закруцілася галава, не абавязкова дарыць дарагія рэчы, дастаткова пабегаць вакол яе.




– Ды здаровы я! Да экзамена падрыхтаваўся.

Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

**Алена БАСІКІРСКАЯ**




*З натуры*

Сын, студэнт радыётэхнічнага каледжа, прыехаў дадому на зімовыя канікулы. Бацька радасна сустрэў яго пасля доўгай разлукі:

– Сынок, ужо і не памятаю, калі цябе бачыў!

– Кажаш, не памятаеш? Значыць, адстаў ад жыцця! Зараз распрацаваны спецыяльны USB-flash накапляльнік ад кампаніі Kingston. З ім ніякая інфармацыя не згубіцца!

– Твой накапляльнік мне не падыдзе: я ж чалавек, – нясмела ўсміхнуўся бацька.

– Падыдзе, – упэўнена сказаў сын. – Калі падыходзіць да розных версій Windows, дык да цябе тым больш падыдзе.

– Не разумею я цябе, сынок...

– Бацька, ды ў цябе праграмны інтэрфэйс завіс, трэба нанова ўстанавіць драйверы.

– Можа, і так... Дарэчы, сынок, як ты экзамены здаў?

– У маёй правайдарскай шпаргалцы была наладжана цэлая сістэма з шэрагам файлавых кантэнтаў. Гэта ўжо быў поўнасцю падняты сервер. Разумееш?

– Не вельмі... Хутка ты, сынок, навучыўся камп'ютарнай грамаце.

– Хутка, бацька, хутка: дзве тысячы мегабайт у хвіліну. У мяне ў галаве – цэлы сістэмны блок!

– Глядзі, сынок, каб усякая брыдота табе ў галаву не лезла.

– Не палезе, татка, у мяне ж устаноўлены ліцэнзаваны антывірус Касперскага. З такою аховай як за каменнай сцяной.

– Але, сынок, замест галавы – флэшка, замест мазгоў – правайдары, а замест розуму – драйверы! Між іншым, «завісаць» у тэхнічным аўтафармаце шкодна!

– А ты адкуль гэтыя словы ведаеш, бацька? – не паверыў сваім вушам сын.

– Перазагрузіўся!

– Эх, бацька, дай і я перазагружуся!..

*г. Міёры.*









Малюнкі Руслана БОГУША.



– У яе хлопец – поўны кавалер!

Малюнак Таццяны МАСОЛ.




Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.



## АНЕКДОТ

– Добры дзень! З вамі гаворыць аўтаадказчык Гены. Мяне няма дома, так што пакіньце сваё паведамленне пры сабе.

## СТУДЭНТЫ АДКАЗВАЮЦЬ...

– Чаму нельга атрымаць дозу апраменьвання ад сотавага тэлефона?
– У ім няма чаму ўзбуджацца.



* * *

**Выкладчык:** – Назаві хаця б пяць беларускіх азёраў.
**Студэнт** *(пасля паўзы)*: – Ну, Камсамольскае возера...
**Выкладчык:** – Тады, можа, у нас і мора ёсць – Мінскае?
**Студэнт** *(абурана)*: – А што, гэта, тыпа, не мора?!




* * *

– Што ўплывае на праяву чалавечага фактара?
– Непасрэдна яго няздольнасць у вымярэнні якіх-небудзь велічынь, а на гэта можа ўплываць нізкі зрок, «крывыя» рукі, неадэкватнасць і іншыя рысы чалавека, а таксама няправільныя рашэнні чалавека, дрэнна ацепленае памяшканне, нязручная працоўная форма і яго жыццёвая пазіцыя.

**Запісаў Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*дацэнт, выкладчык кафедры «Экалогія» БНТУ.*

# Навіны з МУС: матай на вус...

***Крадзяжы бываюць розныя: буйныя і дробныя, «прафесійныя» і на п'яную галаву, з-за нейкай крыўды і зайздрасці. Але часам здараюцца нейкія «дзіўныя» злачынствы, якія не паддаюцца лагічнаму тлумачэнню. Рэйтынг такіх вось бязглуздых крадзяжоў прэзентуе «Вожык».***







I

Пераможцам становіцца 22-гадовы жыхар горада Брэста, які ўкраў запальнічку ў 50-гадовага мінчаніна.

Як бы дзіўна гэта ні гучала, але на гэтага хлопца таксама завялі крымінальную справу. Магчыма, нічым сур'ёзным для брэстчаніна гэта не абернецца, але нервовую сістэму ён сабе падарве. І з-за чаго? Мабыць, гэта так і застанецца рытарычным пытаннем...

II

Другое месца займае 31-гадовы беспрацоўны, які адабраў у мінчаніна бутэльку піва і дзевяць тысяч рублёў.

Нават не ведаем, што кіравала мужчынам у момант здзяйснення злачынства. Ці гэта была непамерная смага, ці жаданне пахмяліцца, ці яму проста не спадабалася, як мінчанін нёс піва, ці злачынец займаўся калекцыяніраваннем бутэлек, а такой у яго яшчэ не было? Здагадак можа быць мора, але той факт, што па гэтым «капеечным» здарэнні заведзена крымінальная справа, застаецца бясспрэчным.

III

Трэцяе месца прысуджаецца жыхару вёскі Сваціца Ляхавіцкага раёна. Ён залез у чужую хату і вынес адтуль тэлевізар, пульт і пакрывала — на агульную суму 520 тысяч рублёў.

Можна неяк зразумець крадзеж тэхнікі: такое сустракаецца дастаткова часта, а вось на пакрывала звяртае ўвагу не кожны злодзей. Можа, мужчына хацеў ухутацца ў яго падчас прагляду тэлевізара? Не ведаем. Але можам выказаць меркаванне, што калі б гэтаму злодзею трапіўся ў момант крадзяжу яшчэ і пачак семачак, дык ён таксама апынуўся б у яго кішэні. Бо які прагляд кінафільма можа абысціся без лузання семак?

***Па матэрыялах Упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязей Міністэрства ўнутраных спраў і УУС Мінскага аблвыканкама.***




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міхася ШУЛЬГІ.



Малюнак Міколы ЧАРКАСАВА.

# Вернісаж













## Жан ПАКЛЯК

***У красавіку ў мастацкай галерэі «Вільнюс» у сталічнай бібліятэцы №18 праходзіла сумесная выстава мастакоў-карыкатурыстаў Жана Пакляка і Аляксандра Каршакевіча пад назвай «Красавіцкая салянка». А. Каршакевіч прадэманстраваў публіцы свае карыкатуры на разнастайныя тэмы, а вось Ж. Пакляк аб'ектам свайго гумару абраў звычайныя рэчы, якія арыгінальна пераўвасобіў... у незвычайныя. Усе яго гумарыстычныя артаб'екты безумоўна выклікаюць усмешку і ў каторы раз даказваюць, што смешнае — побач!..***


















## Усмешка «Купалінкі»

*Чулі пра «Купалінку», знаёмыя з ёй? «Купалінка» – гэта мінская раённая літаратурная суполка, нядаўняя юбілярка. Сёлета вясной ёй споўнілася 20 гадоў.*

*Наша «Купалінка» аб'ядноўвае ні многа ні мала, а два дзясяткі школьных творчых гурткоў прысталічнага раёна. Сябры «Купалінкі» не могуць паскардзіцца на няўвагу да сваёй творчасці з боку рэдакцый: іх творы з году ў год друкуюцца ў рэспубліканскіх часопісах і газетах, траплялі таксама на старонкі «Вожыка». І гэта невыпадкова, бо ёсць сярод «купалінцаў» нямала хлопцаў і дзяўчатак, якім падабаецца жартаваць, а заадно падкалоць таго-сяго дасціпным сатырычным словам.*

*Хоць «цугляць» смяшлівага коніка гумару не заўсёды лёгка, але ж яны спрабуюць. Тым болей – тэм хапае, ёсць за што «зачапіцца», ёсць з чаго пасмяяцца. Не верыце? Тады бліжэй пазнаёмцеся з тымі творамі юных гумарыстаў, якія падаліся мне вартымі вожыкаўскай увагі. Няхай сабе і калючай, але па-сяброўску спагадлівай і шчырай.*

*Мікола ЧАРНЯЎСКІ,*
*старшыня літсуполкі «Купалінка».*



## Мадамы ў агародзе

На практыку у школьным агародзе
Дзяўчынкі нашы
Апрануліся па модзе:
Спаднічкі яркія,
Ад сонца акуляры,
Па градах тупаюць,
Нібы па тратуары.
Ім капаніцы
Яўна не па густу...
Ці ж давяраць такім мадам капусту?
Што ж будзе
І з цыбуляй, і з маркоўкай?
Тут рады трэба даць
Рукою лоўкай.

Нам, хлопцам, не ўдалося пагуляць:
Прыйшлося агарод
Самім ад зелля ратаваць.

**Усевалад ГРЫНЧЫК,**
*Сенніцкая СШ імя Янкі Купалы.*



## Цяжка быць дачушкай...

Я ўсё лета працавала,
Бо мне мама наказала:
«Даглядай за братам Пашкам,
І кармі яго ты кашкай,
Кожны дзень чытай пакрышку,
Не сябруй з суседам Мішкам,
Раніцою вымый посуд,
Не ляці з двара нікуды,
Прайдзі хату з пыласосам,
З мэблі вытры пыл усюды,
Прыгатуй салат на вечар,
Не забудзь пачысціць бульбу.
Ўсё, дачушка, да сустрэчы,
Я на працу, хутка буду».

Кожны дзень адно і тое ж,
Я – як тая Папялушка:
Ні хвілінкі мне спакою –
Цяжка быць ў сям'і дачушкай!

**Насця ГАНЧАРЫК,**
*Навасельская СШ.*

## Здарэнне на рыбалцы

Зусім не шанцавала мне,
Браточкі, гэтым летам...
Адправіла матуля,
Каб час правёў я з дзедам.

Пайшлі мы з ім на рэчку:
Наловім, думаў, рыбкі.
А там чакаў мяне ўжо
Шчупак, ды надта спрытны.

Мяне ўцягнуў у рэчку,
Зламаў маё вудзільна,
За куст я зачапіўся –
Па швах пайшла штаніна.

Я там «пасеяў» боты,
Як уцякаць надумаў.
Такія вось прыгоды:
Хацеў бы – не прыдумаў.

**Аляксей БОЛВАХ,**
*Навасельская СШ.*

## Веласіпед

Купілі мне веласіпед,
Перажыла я з ім сто бед.
Катацца хоць не ўмела,
За руль
Трымалася я смела!

За мною бегалі заўзята
Матуля, дзед, бабуля, тата.
Сусед крычаў мне:
– Тармазі!
– Эх, позна, браце, бінт нясі!

Разбіла да крыві каленку,
Запэцкала усю сукенку,
Але свайго дабілася –
Катацца ўсё-ткі навучылася!

**Аня СІНЬКЕВІЧ,**
*Заслаўская СШ № 1.*

*Працяг у наступным нумары.*



**Іосіф РОГАЛЬ**

# На граніцы нашай свята

На вуліцах святочна, чыста,
Дождж пазмываў вясновы друз.
Дзень пагранічніка ўрачыста
Святкуе наша Беларусь.

Сцягі, шары, гучаць аркестры,
І ў небе жаўранкі звіняць.
Герояў-пагранічнікаў партрэты
На вахце гонару стаяць.

Сям'я, узяўшыся за рукі,
У сквер да помніка ідзе,
І пагранічнік-дзед з унукам
Букет на пастамент кладзе.

Унук, на зайздрасць іншым дзецям,
Фуражку раптам папрасіў...
Нібыта на мяжы ўжо дзесьці
Ён дзеда на пасту змяніў.

У гонар тых, хто самы першы
Варожай зграі бой даў тут,
Гучалі маршы, песні, вершы,
А вечарам грымеў салют.

Мы ўсім, хто хоча з намі міру, –
Працягнем праз мяжу руку.
А для злачынцаў і «задзіраў»
Граніца наша – на замку!






Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.

**Юрась НЕРАТОК**

## ДЗЯДЗЬКА КІНУЎ ПІЦЬ

Відаць, дапіта маё мора,
Таму я болей не піток...
І пабажуся, што заўчора
Зрабіў апошні свой глыток!

Я не ўздыхну, не мацюкнуся –
Прыйшоў ваш час «качаць» правы!
Няма паласа – на абрусе
Стаіць труна. Я – нежывы.

Сатрэ слязу суседка Машка
І нават хныкне ўсім наўздзіў.
Яно, канешне: ёй так цяжка!
Я пляшак пяць не адрабіў.

Ляснічы Толя спахмурнее,
Ён над паперкай ноч гарбеў.
Яго таксама разумею,
Бо штраф спагнаць ўсё ж не паспеў.

Загляне нават участковы
І мне паправіць рукавы.
Эх, я б сказаў яму тры словы,
Але я ж болей не жывы.

Ад нараджэння і да смерці
Жыццё злучыла берагі...
Ды, зрэшты, што там «мульку церці» –
Сплаціў затое ўсе даўгі!

А на двары мая каманда
Ужо вясёла загула.
І вось гучыць загад уладна:
«Ну, рукі мыць – і да стала!»

Заціхне могілкавы «кіпеж».
Ім чарку выпіць, мне – адбой.
Нальюць і мне. Ды дзе ж ты вып'еш?
Я на два метры пад зямлёй!

**Жан ПАКЛЯК**

## ЗГУБА




Працаваў у нашым ЖЭСе сантэхнік Сярога. Кожны раз, атрымаўшы зарплату, адразу ж яе прапіваў. Мужчына неаднаразова папярэджваўся і, нарэшце, быў звольнены. Але праз некаторы час раскаяўся і прыйшоў да начальніка ЖЭСа:

– Мікалаевіч, вазьмі мяне зноў на працу!

– Вазьмі яго! Як жа! Зноў прасыхаць не будзеш!

– Усё, хопіць, не п'ю я больш. Закадзіраваўся.

Мікалаевіч зрабіў невялікую паўзу, пільна паглядзеў на Сярогу і сказаў:

– Добра, але гэта ў апошні раз!

На наступны дзень начальнік ЖЭСа выйшаў з домакіраўніцтва і ўбачыў наступную карціну: «закадзіраваны» стаяў літарай «зю» ў адной красоўцы ў лужыне і спрабаваў сабраць свае інструменты ў дыпламат.

– Сяргей, ты ж закадзіраваны! – абурыўся начальнік.

– Мікалаевіч, не паверыш, код знік! – шчыра адказаў той.

*г. Мінск.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.







Малюнкі Пятра КОЗІЧА.

# ПРЫПЕЎКІ



Табе, Вася, прызнаюся,
Што я козытаў баюся:
Як цалуеш, галубок,
Вусы павяртай набок.

* * *

У мяне каханы ёсць,
Ды нягеглы нейкі штосьць.
Каб яго расшавяліць,
Трэба цэбар піва ўліць.

* * *

Праз цацанкі-абяцанкі
Будзеш недарэкаю.
Хутка ад «Галіны Бланкі»
Я закукарэкаю.

* * *

А я любага мілёнка
На базары не прадам:
Адкармлю, як парасёнка,
І ў арэнду яго здам.

* * *

Здараўца пачуўшы бас,
Затрапеча сэрца ўраз.
Сакавіты нізкі голас
Падымае ўгору волас.

* * *

У Сымона доўгі нос,
На дражджах ён, мусіць, рос.
За такі шыкоўны гонар
Пазайздросціў бы сам Гогаль.

* * *

Найцудоўнейшымі ў свеце
Нашы хлопцы лічацца.
А пазнаеш па прыкмеце –
Вусы іх казычуцца.

* * *

А я ў хату па канату
Лезла да мілёначка,
А патрапіла, дзяўчаты,
Ў хлеў да парасёначка.

**Праспявала Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*

Што я ў маці удалася,
Ведае ўся вуліца.
Вось чаму сусед мой Вася
Да мяне не туліцца!

* * *

Чым жа я не гаспадар:
Свінні ёсць і гусі.
Тыцне баба дулю ў твар –
Зноў пайду нап'юся!

**Агучыў Міхась ДУБОВІК,**
*Бярэзінскі раён,*
*в. Арэшкавічы.*

Мяне знаёмыя адны
Завуць на драныя бліны.
Вось людзі звар'яцелыя:
Люблю бліны я цэлыя!

* * *

«Мёд ад 101 хваробы»
Кнігу набыла я.
Ды скруціла мне вантробы
Трасца сто другая!

**З вуснаў Зоі НАВАЕНКІ,**
*Глыбоцкі раён,*
*г. п. Падсвілле.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.



Малюнак Міколы ЧАРКАСАВА.




Маці Максіма Галкіна вырасла на песнях яго жонкі.



Напэўна, ты меў рацыю, я сапраўды дрэнна гатую... Учора наліла кату супу, дык ён яго панюхаў і пачаў закопваць.



Калі ёсць жаданне, але няма магчымасці абнавіць свой гардэроб — памыйце белае з каляровым!



Ніколі! Вы чуеце, ніколі не трымайце папугая ў адным пакоі з немаўлём! Дзіця вырасце і перастане плакаць, але гэтая сволач...



Разрываючыся паміж мыццём, прыбіраннем і гатаваннем, выбрала — паспаць.



Учора з жонкай клеілі шпалеры... Ледзь не развяліся.



І навошта цукеркі загортваюць у такую шаматлівую абгортку? На ўсю кватэру чуваць, як я худзею...



Часта Антон прачынаўся ўначы, здымаў заручальны пярсцёнак і радаваўся свабодзе. Потым зноў надзяваў, абдымаў жонку і засынаў.



Люблю вяселлі! Нявеста прыкідваецца, што яна нявінніца, жаніх прыкідваецца, што знайшоў тую самую адзіную, а бацькі з абодвух бакоў робяць выгляд, што падабаюцца адзін аднаму. Толькі адны госці шчырыя — прыйшлі паесці і ядуць!

**Даслаў Канстанцін КАРНЯЛЮК,**
*г. Віцебск.*

**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**

**«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс**

№ 5 (1496), 2013 год.

*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*
*Часопіс «Вожык» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэгістрацыйны № 520.*

Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».

Галоўны рэдактар
Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.



**Рэдакцыя:**
Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў).*

*Рэдактар стылістычны* Марыя ПЛЕВІЧ.
*Камп'ютарная вёрстка*
Святлана ТАРГОНСКАЯ.

**Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.**

**Адрас рэдакцыі:**
**220005, Мінск,**
**праспект Незалежнасці, 39.**
**E-mail:a-vojik@yandex.ru**

***Тэлефоны:***
***галоўнага рэдактара — 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзела літаратуры, мастацкага аддзела — 284-84-52, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.***



Падпісана да друку 07.05.2013
Фармат 60x84 1/8. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,58. Тыраж 1898 экз.
Заказ 1463.

Кошт нумара ў розніцу 14 000 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск,
праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 3.04.2009.